*«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»*

## *Георгій ІГНАТОВІЧ:*

# «БЕЛПОШТА» ЗАЦІКАЎЛЕНАЯ Ў АДСУТНАСЦІ ПРЭТЭНЗІЙ, РЭКЛАМАЦЫЙ З БОКУ СПАЖЫЎЦА...»

**Што б ні здарылася, якія б эканамічныя складанасці нас ні напаткалі, мы заўсёды будзем карыстацца паштовымі паслугамі. Таму, відаць, і не выпадковая чытацкая цікавасць да «прамой лініі», якую «Звязда» нядаўна правяла з генеральным дырэктарам рэспубліканскага аб'яднання «Белпошта» Георгіем Ігнатовічам. Сёння мы прапануем увазе чытачоў запіс некаторых пытанняў і адказаў на іх.**

**ПАЎЛАВА Марыя Пятроўна, Нясвіж:**

***— Як складваецца сітуацыя з развіццём беларускай філатэлістычнай арганізацыі? Некалі Усесаюзнае таварыства філатэлістаў мела аддзяленні ва ўсіх рэспубліках. Нават дзеці прымалі актыўны ўдзел у дзейнасці філатэлістычнай арганізацыі.***

— Для нас клопат аб філатэлістах вельмі важны. Ужо хаця б таму, што наша вытворчая дзейнасць самым цесным чынам звязана з філатэліяй. Магчыма, вы не ведаеце, — бо не так часта пра гэта пішуць у друку, — але ў нашай краіне збіральнікі паштовых марак арганізацыйна аб'ядналіся. У Беларусі працуе Саюз філатэлістаў Беларусі. Узначальвае яго Юрый Кандрацьевіч Кукурузін. «Белпошта» актыўна супрацоўнічае з гэтай арганізацыяй. Старшыня саюза з'яўляецца членам мастацкага савета Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь. Паводле даных саюза, на сённяшні дзень колькасць яго членаў каля 1500 чалавек. Між іншым, выразны рост адбываецца менавіта ў апошні час. У кожнай вобласці дзейнічаюць абласныя, раённыя і гарадскія аддзяленні Саюза філатэлістаў. Найболей буйныя арганізацыйныя структуры філатэлістаў — у Мазыры, Салігорску, Бабруйску, Слуцку, Полацку, Асіповічах.

Што да школьнікаў, то дзіцячыя клубы філатэлістаў дзейнічаюць у Мінску, Гомелі, Мазыры. Памочнікам у стварэнні дзіцячых філатэлістычных структур магла б выступіць і школа. Некалі ж неаднойчы гаварылі і пісалі пра тое, што існуе сістэма філатэлістычнага выхавання. А я б у сваю чаргу дадаў, што філатэлія магла б адыгрываць і часам адыгрывае вялікую адукацыйную ролю. Дык каму як не школе паўплываць на развіццё цікавасці дзяцей да філатэліі?!

**СІДОРЧЫК Ганна Аляксандраўна, г. Мінск:**

***— Карыстаючыся вашымі, «Белпошты», паслугамі, я адпраўляю родзічам у Сібір многія газеты і часопісы. А ці нельга праводзіць у Расіі падпіску на беларускія выданні?***

— Чаму ж нельга? Падпіска на беларускія выданні, але, вядома ж, далёка не на ўсе, праводзіцца. Парайце сваім сібірскім родзічам зазірнуць у каталог агенцтва «Расдрук». Якраз туды ўключаны 19 газет і 29 часопісаў Рэспублікі Беларусь для распаўсюджвання на тэрыторыі Расіі. Найболей папулярныя з іх — газеты «Звязда», «Рэспубліка», «Советская Белоруссия», часопісы «Алеся», «Беларусь», «Нёман».

Што датычыць іншых краін, то ў Малдове распаўсюджваецца 12 газет і 22 часопісы, ва Украіне — 16 газет і 32 часопісы, у Літве — 8 газет і 7 часопісаў Рэспублікі Беларусь. Як бачыце, праблем асаблівых няма. Усё залежыць ад жадання нашых айчынных выданняў трапіць у падпісны каталог той альбо іншай дзяржавы.

**КАЛЕНЧЫЦ Любоў Аляксандраўна:**

***— Георгій Яўгенавіч, скажыце, калі ласка, ці ўсе з расійскіх выданняў можна выпісаць у Беларусі?***

— Аформіць падпіску на выданні Расійскай Федэрацыі можна ў любым аддзяленні сувязі Рэспублікі Беларусь па каталогу «Газеты і часопісы Рэспублікі Беларусь», па каталогу «Газеты і часопісы краін СНД і далёкага замежжа» і па каталогу «Органы навукова-тэхнічнай інфармацыі». Як правіла, рэдакцыя таго альбо іншага перыядычнага выдання самастойна вызначае рэгіён распаўсюджвання. Дарэчы, рэспубліканскае аб'яднанне «Белпошта» распаўсюджвае 3838 найменняў перыядычных выданняў. З іх 3314 — выданні Расійскай Федэрацыі. Найболей папулярныя ці найболей падпісныя — «Веселые картинки», «Вокруг света», «За рулем», «Здоровье», «Крестьянка», «Наука и жизнь» і іншыя. На Беларусі, між іншым, можна выпісаць 111 выданняў Украіны, сярод іх «Деловая Украина», «Дашкильне выховання», «Украинская культура». З Малдовы да нас ідзе 35 выданняў, у тым ліку — «Кишиневские новости», «Независимая Молдова», «Фазенда».

**МАКСІМКЕВІЧ Валянціна Пятроўна, Мінск:**

***— Мяне цікавіць, чаму ў кіёсках «Белсаюздруку» і паштовых аддзяленнях розны кошт на адны і тыя ж канверты, паштовыя карткі?***

— Маркіраваныя канверты і карткі ў аддзяленнях сувязі і кіёсках «Белсаюздруку» рэалізуюцца па аднолькавых цэнах, паколькі выпрацоўваюцца цэнтралізавана аб'яднаннем «Белпошта», дзе і фарміруецца рознічная цана з улікам кошту паштовай маркі, і накіроўваюцца ў аддзяленні сувязі і часткова — прадпрыемству «Белсаюздрук». Што датычыць немаркіраваных канвертаў і мастацкіх картак, то РА «Белпошта» і ДП «Белсаюздрук» набываюць іх самастойна. Канверты, як і мастацкія карткі, розняцца па фармату, якасці паперы, спосабах склейвання. Гэта, безумоўна, і ўплывае на розніцу цэн. Нельга не заўважыць, што ў аддзяленнях сувязі досыць высокі выбар канвертаў, мастацкіх картак (як правіла, да 15 відаў) і цэны значна ніжэйшыя, чым у іншых гандлёвых арганізацыях.

**АХРЭМЧЫК Іван Канстанцінавіч, Гомель:**

***— Як хутка і якія на Беларусі мяркуецца праводзіць філатэлістычныя выстаўкі?***

— Ізноў жа я вымушаны паскардзіцца на адсутнасць пільнай увагі нашых сродкаў масавай інфармацыі да айчыннай філатэліі. Таму, відаць, і ўзнікаюць падобныя пытанні. У сакавіку 1998 года ў Мінску прайшла гарадская філатэлістычная выстаўка, арганізатарамі якой былі рэспубліканскае аб'яднанне «Белпошта», Саюз філатэлістаў Беларусі і Нацыянальны музей гісторыі Беларусі. З 22 мая па 2 ліпеня ў Магілёве праходзіць абласная філатэлістычная выстаўка, прысвечаная 225-годдзю Санкт-Пецярбургска-Магілёўскага паштовага тракта, да якой «Белпошта» падрыхтавала наддрукоўку на марцы «Кляштар кармелітаў у Магілёве», мастацкі маркіраваны канверт і штэмпель спецгашэння. У лістападзе 1998 года ў Мінску павінна прайсці І Рэспубліканская філатэлістычная выстаўка, арганізатарамі якой выступаюць РА «Белпошта» і Саюз філатэлістаў. Да гэтай выстаўкі рыхтуем наддрукоўку на квартблоку «Птушкі, занесеныя ў Чырвоную кнігу», мастацкі маркіраваны канверт і штэмпель спецгашэння. Плануецца, дарэчы, да правядзення выстаўкі прыцягнуць і Беларускі патрыятычны саюз моладзі.

**ІЛАНЬКОЎ Ігар Васільевіч, Мінск:**

***— У апошнія гады павялічыўся паток замежнай карэспандэнцыі. Чаму бандэролі і іншую карэспандэнцыю трэба атрымліваць на галоўпаштамце?***

— Тут трэба ўлічваць вось што. Пасылкі, дробныя пакункі, пісьмы з абвешчанай каштоўнасцю, якія паступаюць з краін далёкага замежжа, выдаюцца на паштамтах і раённых вузлах паштовай сувязі дзеля забеспячэння захавання міжнародных паштовых адпраўленняў. Простыя і заказныя лісты і бандэролі з краін далёкага замежжа выдаюцца ў любым аддзяленні сувязі краіны. Усе ж віды міжнародных паштовых адпраўленняў (пасылкі, дробныя пакункі, пісьмы з абвешчанай каштоўнасцю, простыя і заказныя пісьмы і бандэролі), якія паступаюць з краін блізкага замежжа, выдаюцца ў любым аддзяленні сувязі.

**СЕВАСЦЬЯНАЎ Міхаіл Васільевіч:**

***— У мяне часта губляецца карэспандэнцыя, адпраўленая ў Расію. Куды звяртацца, каб яе адшукаць? Ці нясе хто адказнасць за гэта?***

— «Белпошта» зацікаўленая ў адсутнасці прэтэнзій, рэкламацый з боку спажыўца. Таму ўсе заўвагі прымаем і стараемся любым чынам іх выправіць. Што датычыць пошуку міжнародных паштовых адпраўленняў, то імі займаецца бюро рэкламацый РА «Белпошта» (тэлефон 226-01-62). Каб пачаць пошук, неабходна звярнуцца з адпаведнай заявай у любое аддзяленне сувязі. Да заявы неабходна прыкласці квітанцыю ці завераную прадпрыемствам сувязі копію квітанцыі, альбо копію спіса ф. 103-а, выдадзеную пры прыёме паштовага адпраўлення. У выпадку страты заказных адпраўленняў, адпраўленняў з абвешчанай каштоўнасцю, пасылак — гэта значыць рэгіструемых паштовых адпраўленняў, а таксама недастачы альбо псавання ўкладання, што перасылалася, адказнасць нясе паштовая адміністрацыя, у службе якой адбылася страта, крадзеж альбо пашкоджанне, і адпаведная кампенсацыя адпраўніку выплачваецца за кошт вінаватай адміністрацыі.

**ВЕЛЬЯМІНАЎ ІГАР Мікалаевіч, Мінск:**

***— Вельмі дарагая расійская перыёдыка. Цана падпіскі ў такіх памерах закладваецца расійскім бокам альбо гэта ўжо беларуская «накрутка»?***

— Пры фарміраванні падпісных цэн на расійскія выданні цана даецца выдаўцом у расійскіх рублях, якая затым пераводзіцца ў беларускія рублі згодна з курсам Нацбанка Рэспублікі Беларусь. Для прыкладу, каэфіцыент пераразмеркавання расійскага рубля да беларускага ў рэспубліцы на другое паўгоддзе 1998 года складае 5900 руб., а ў Расіі — 14000 руб. Далей да атрыманай сумы дадаецца кошт паслуг паштовай сувязі за распаўсюджванне, экспедзіраванне, перасылку і дастаўку перыядычных выданняў у адпаведнасці з тарыфамі, зацверджанымі Міністэрствам сувязі Рэспублікі Беларусь і ўзгодненымі з Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку.

**Запіс «прамой лініі» падрыхтаваў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**
**(Заканчэнне будзе).**

## ТРЫ ПЫТАННІ ДА ЧЫТАЧА

*Алена БАРАДЗІНА, выкладчыца Баранавіцкага вышэйшага педкаледжа*

**— Чаму вы выпісваеце «Звязду»?**

— «Звязду» я выпісваю добрых паўтара дзесятка гадоў, за якія акрэслілася агульная яе тэндэнцыя: быць стабільнай у такі нестабільны час. Газета па-сапраўднаму беларуская. Без усялякіх рэверансаў.

**— Што падабаецца ў газеце?**

— Газета мае ўласную пазіцыю, для мяне вельмі прымальную — яна далёкая ад усялякіх запабяганняў перад уладаю, але і ад апазіцыйнага радыкалізму таксама. Я схільная бачыць у першым праяву чалавечай і прафесійнай годнасці яе стваральнікаў, у другім — праяву павагі да свайго чытача: няхай ён выпрацуе свой пункт погляду на тую ці іншую падзею. Не тое што жыць без «Звязды» не магу, але і працаваць было б горш і больш сумна. Асобы, якія з'яўляюцца гонарам нацыянальнай культуры, паўстаюць не бронзавымі помнікамі, а нашымі жывымі сучаснікамі. Я выкладаю беларускую літаратуру і рэдкую лекцыю не пачынаю словамі: «Дарэчы, учора я прачытала...» І студэнты ведаюць, што я пераважна пра «Звязду». Часам мы літаральна працуем з газетным матэрыялам, як з артыкуламі Сяргея Шаўцова пра беларусаў, інтэлігенцыю, народ і натоўп... Маецца ў мяне цэлая падборка вершаў (фотаслоў) Яўгена Пясецкага. І шкада, што апошнім часам іх паменела ў нумарах «Звязды». Пачну ўсё пералічваць — не хопіць месца і часу. Але ўсё ж адзначу яшчэ і Аленіну «Прызбу» і Анталогію верша.

**— Што б вы хацелі пажадаць «Звяздзе»?**

— Некалі як пачынаючы настаўнік я адкрывала для сябе на старонках «Звязды» таго ж Разанава ці Глобуса праз рэцэнзіі на іх творы. Цяпер, калі з'явіўся ўласны літаратурна-крытычны сверб, газета яго задаволіць не можа. Здаецца, Алег Антонавіч Лойка неяк пажадаў «Звяздзе» аднавіць гэтую традыцыю. Цалкам далучаюся.

## ПА ЗАКОНУ

*Кансультацыю дае намеснік загадчыка юрыдычнага аддзела Федэрацыі прафсаюзаў Святлана СМАГЛЮК*

***— На нашым прадпрыемстве ідзе скарачэнне штатаў. Ці могуць мяне звольніць, калі я адна выхоўваю дзіця ва ўзросце да 11 гадоў?***

**Е. П. СЕМЯНЧУК**

— У адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 170 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь з адзінокімі маці, якія маюць дзяцей ад 3 да 14 гадоў (або дзяцей-інвалідаў да 16 гадоў) скасаванне працоўнай дамовы па ініцыятыве наймальніка магчыма толькі ў выпадку ліквідацыі прадпрыемства, арганізацыі, установы, спынення дзейнасці прадпрымальніка, а таксама за наступныя дзеянні:

— сістэматычнае невыкананне работнікам без уважлівых прычын абавязкаў, ускладзеных на яго працоўнай дамовай або правіламі ўнутранага працоўнага распарадку, калі да гэтага работніка раней ужо прымяняліся меры дысцыплінарнага спагнання;

— прагул (у тым ліку адсутнасць на рабоце больш як тры гадзіны на працягу працоўнага дня) без уважлівых прычын;

— з'яўленне на рабоце ў нецвярозым стане, стане наркатычнага або таксічнага ап'янення;

— крадзеж па месцы работы маёмасці наймальніка, калі гэты факт устаноўлены ўступіўшым у законную сілу прыгаворам суда або пастановай органа, у кампетэнцыю якога ўваходзіць выкананне адміністрацыйнага спагнання

— аднаразовае грубае парушэнне працоўных абавязкаў кіраўніком прадпрыемства, арганізацыі, установы (яго намеснікамі, галоўным бухгалтарам і яго намеснікамі), учыненне вінаватых дзеянняў работнікам, які непасрэдна абслугоўвае матэрыяльныя каштоўнасці, калі гэтыя дзеянні далі падставу для страты да яго даверу з боку наймальніка;

— здзяйсненне работнікам, які выконвае выхоўваючыя функцыі, амаральнага ўчынку, несумяшчальнага з гэтай работай.

Апроч таго, трэба мець на ўвазе, што пленум Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь у сваёй пастанове да катэгорыі «адзінокай маці», на якую распаўсюджваюцца ўсталяваныя артыкулам 170 КЗаПа гарантыі, аднёс таксама ўдоў, што маюць дзяцей адпаведнага ўзросту. Аднак на разведзеных жанчын, якія выхоўваюць дзяцей ад 3 да 14 гадоў, названыя вышэй гарантыі не распаўсюджваюцца.

# Памяць святой Ефрасінні Полацкай

## *ушанавана Беларускай праваслаўнай царквой, дзяржавай і грамадскасцю*

Пятага чэрвеня ў нашай краіне адзначаецца як дзень памяці заступніцы зямлі беларускай ігуменні манастыра святога Спаса Ефрасінні Полацкай. Сёлета ў Мінску з гэтай нагоды прайшло свята, наладжанае фондам, які носіць імя беларускай асветніцы. А ў Полацку ў гэты ж дзень адбыліся царкоўныя ўрачыстасці, у якіх прымалі ўдзел кіраўнікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь П. Шыпук і А. Малафееў, міністр культуры А. Сасноўскі і старшыня камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў А. Білык, а таксама кіраўніцтва Віцебскай вобласці і Полацка.

У Крыжаўзвіжальным саборы Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра адбылася ўрачыстая служба, прысвечаная 825- годдзю з дня смерці ў Іерусаліме беларускай асветніцы. Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі зачытаў пасланне Сінода Беларускай праваслаўнай царквы і Пасланне Патрыярха Алексія II. Было таксама асвечана месца на тэрыторыі манастыра, дзе будзе ўзводзіцца новая пабудова.

Сярод паломнікаў, якія прыбылі на гэтае свята, каб пакланіцца мошчам Ефрасінні, прысутнічалі прадстаўнікі Фонду Крыжа Святой Ефрасінні Полацкай і Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», якое прымала непасрэдны ўдзел у стварэнні Крыжа паводле ўзору Узвіжальнага Крыжа Ефрасінні Полацкай. Фонд Крыжа Ефрасінні падрыхтаваў да свята праект рэгенерацыі манастыра (выкананы мінскім архітэктарам Вадзімам Ліннікам).

— Гэта толькі пачатак работы, якую збіраецца ажыццявіць Фонд Крыжа Ефрасінні, — адзначыў яго прэзідэнт, беларускі прадпрымальнік з Сібіры Анатоль Сілівончык. — Далей мяркуем распачаць рэстаўрацыйныя работы ў манастыры, упарадкаваць яго тэрыторыю.

Дарэчы, Анатоль Сілівончык і яго калегі — беларускія прадпрымальнікі з Сібіры — Андрэй Капайгара і Мікола Сулкоўскі зрабілі з нагоды свята падарунак манастыру — новенькі мікрааўтобус, які, вядома ж, вельмі прыдасца яго насельнікам. Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» сумесна з фондам Крыжа Ефрасінні выдала кнігу У. Арлова «Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны», а Беларускі экзархат — цудоўна аформленую кнігу «Крыж — краса царквы».

На жаль, ніякіх звестак пра месцазнаходжанне арыгінальнага Крыжа Ефрасінні, які знік у перыяд Вялікай Айчыннай вайны, пакуль што знайсці не ўдалося. Аднак стваральная праца, накіраваная на яго пошук, на працвітанне роднага краю, аб'яднала творчых і чыноўных людзей, духоўных асоб. А гэта значыць, што вялікая міратворчая місія Крыжа ажыццяўляецца.

**Таццяна АНТОНАВА.**

# «ГЛЕБАЎКА»

## *Яе навучэнцы займаюцца фізкультурай у былой сінагозе*

«Глебаўка» — гэта мастацкае вучылішча імя Глебава. Размяшчаецца на вул. Б. Хмяльніцкага, што за два крокі ад Дома прэсы, дзе ваш пакорны слуга піша гэты артыкул.

Нядаўна вучылішча адзначыла 50-годдзе з дня заснавання. Яно ўваходзіць у пяцёрку лепшых мастацкіх вучылішчаў былога СССР. Гэта тым больш дзіўна таму, што пажарнікі і санэпідстанцыя да 1 верасня пагражаюць вучылішча закрыць. Як непрыстасаванае для вучобы...

**1.**

У 1996 годзе конкурс у вучылішча быў 8 чалавек на месца на дызайн і 5 — на жывапіс, колькі будзе сёлета, сказаць немагчыма, бо набор істотна скарочаны. Верагодна, трэба чакаць рэкорда, на жаль, не вельмі вясёлага. Сярэднія мастацкія школы не зменшылі колькасць выпускнікоў, талентаў не стала менш, проста вучылішча больш не ў стане прыняць і вучыць усіх, хто гэтага дастойны. Ужо вядома, што такіх шчаслівачыкаў будзе толькі 24...

Да 1989 года вучылішча, па словах дырэктара Міхаіла Басалыгі, «здымала куткі». Потым з дапамогай Міністэрства культуры ўдалося выправіць усе дакументы, якія замацоўвалі памяшканне і ўчастак зямлі вакол плошчай 72 соткі ўласна за мастацкім вучылішчам. Праўда, лягчэй ад гэтага не стала нікому: дагэтуль навучэнцы спасцігаюць азы майстэрства ў трох розных месцах горада Мінска. Напрыклад, будучыя разьбяры па дрэву — на вул. Бядулі, 5 у падвале жылога дома і па мансардах на вул. Варвашэні.

Увогуле, будынак вучылішча даваеннага часу. Тады будавалі, канешне, лепш, чым цяпер, але колькі можна яшчэ тут сядзець? На адным з педсаветаў выкладчыкі паставілі дырэктару ультыматум: рабіце што хочаце, але каб «водар» з прыбіральні не распаўсюджваўся на ўсе тры паверхі. Выкарыстоўваючы сітуацыю, Міхаіл Самуілавіч здолеў вырваць грошы і адрамантаваць прыбіральню. А вы кажаце, высокае мастацтва...

Што цікава, Басалыгу ўдавалася запрасіць у вучылішча ўсіх трох міністраў культуры, якія па чарзе змянялі адзін аднаго. Гэта давала станоўчы вынік. Штосьці можна было адрамантаваць, падфарбаваць, нават здолелі адкрыць камп'ютэрны клас, бо сучаснаму мастаку без камп'ютэра не абысціся.

Я думаю, удачай было і тое, што будынак аддалі вучылішчу ў патрэбны час — не раней і не пазней. Надта ўжо спакуслівае месца: цэнтр горада, насупраць банк «Комплекс», крыху далей — кінатэатр «Кастрычнік» і «Макс-шоу». А на пачатку 90-х будынак былога фінансавага тэхнікума быў, дзякуй Богу, нікому непатрэбны.

Зараз у вучылішчы 240 навучэнцаў. Строга кажучы, умоў для навучання ў іх няма ніякіх, калі мець на ўвазе сусветныя стандарты. У маленькіх памяшканнях сядзяць па 10 чалавек, між тым, недзе трэба ставіць пастаноўку, мальберты, проста рухацца — пастаноўку звычайна малююць 20—30 гадзін. У прынцыпе лягчэй пералічыць, чаго ў вучылішчы няма. Гэта: актавай залы, сталовай, прыстойнай спартзалы, інтэрната не было ніколі. Калі хто часта бывае ў гэтым раёне, то можа бачыць невялікі будынак перад вучэбным корпусам політэхнічнай акадэміі. Гэта і ёсць спартзала «Глебаўкі». Адначасова — былая сінагога. «Ноу комент», як гаворыцца, — не каменціруецца.

А Басалыга ўжо ў чаканні новага стыхійнага бедства: у наступным годзе ўводзіцца ваенная падрыхтоўка. Для яе неабходна шукаць памяшканне.

Не сакрэт, што асноўным пастаўшчыком самабытных талентаў з'яўляецца правінцыя. Гэта вельмі добра, але талентам трэба недзе жыць. Вось лічба: у мінулым годзе вучылішча змагло ўладкаваць у інтэрнат толькі 20—30 працэнтаў іншагародніх, «самых-самых». Можа быць, гэта правільна, калі будучы мастак вымушаны з самага пачатку жыць у экстрэмальных умовах, маўляў, няхай прывыкае, але начаваць на вакзале — гэта, канешне, занадта. А бывае. Бывае, што нейкі час дзеці жывуць у аўдыторыях, хоць гэта і забаронена. Дырэктар бярэ гэты грэх на сябе: не гнаць жа іх на вуліцу.

На першым сходзе абітурыентаў Міхаіл Самуілавіч кажа іх бацькам прамым тэкстам: зазірніце ў свае кашалькі — ці зможаце вы плаціць за кватэру, даваць грошы на фарбы, паперу, палатно, у рэшце рэшт, на харчаванне?

У пачатку навучальнага года дырэктар метадычна абзваньвае ледзь не ўсе інтэрнаты родначасных устаноў: ці не паселіце нашых? З вялікім напружаннем, мольбамі і хітрыкамі ўдаецца частку пасяліць. Летам дзяцей проста выганяюць. Наступнай восенню ўсё пачынаецца спачатку...

**2.**

Калі ў кабінет Басалыгі заходзяць пажарны інспектар ці санітарны ўрач, ён з цяжкім уздыхам дастае аўтаручку — распісацца пад чарговым актам альбо пастановай. Толькі лянівы і нядобрасумленны чыноўнік не знойдзе ў вучылішчы тых ці іншых парушэнняў. А наконт парушэнняў нашы чыноўнікі заўсёды былі актыўнымі.

І пажарнікі, і санурачы рацыю, безумоўна, маюць: вучыцца ў гэтым будынку з цягам часу становіцца элементарна небяспечна. Праўда, правяраючыя не могуць адказаць на таксама элементарнае пытанне — што рабіць? Што рабіць, калі нават пры перадачы будынка вучылішчу ён не быў капітальна адрамантаваны? Цяпер дырэктар дысцыплінавана падпісвае акты і марыць пра новы будынак.

Трэба сказаць, мара паступова пераходзіць у сферу рэальнасці. Рашэнне аб будаўніцтве новага будынка вучылішча ўжо прынята, Міністэрства фінансаў выдзеліла грошы, а праекціроўшчыкі шчыруюць над праектам. Гэты працэс у сярэднім займае два гады. Колькі працягнецца само будаўніцтва, калі пачнецца — пытанні дастаткова цьмяныя. Адно можна сказаць з упэўненасцю: у наступным стагоддзі мастацкае вучылішча імя Глебава немінуча адсвяткуе наваселле.

Самае галоўнае — запраектаваны інтэрнат з улікам спецыфікі навучэнцаў: мастак працуе не столькі ў аўдыторыі, колькі дома. А для гэтага патрэбны адпаведныя ўмовы, перш-наперш прасторны светлы пакой. Але гэта — у аддаленым будучым.

Сёння вучылішча вымушана ліхаманкава латаць дзіркі, якія з пагрозлівай рэгулярнасцю ўзнікаюць то тут, то там. Міхаіл Самуілавіч мне чымсьці моцна нагадваў бясстрашнага героя Аляксандра Матросава — той, як вядома, лёг на варожы кулямёт. Відаць, дырэктар нешта падобнае перажыў, калі яму «ўляпілі» вымову за некантралюемую актыўнасць. Ва ўсіх вышэйстаячых інстанцыях Басалыга настойліва патрабуе дапамагчы вучылішчу. Зразумела, гэта раздражняе. Як усе мы добра засвоілі, ніводная добрая справа беспакаранай не застанецца. Ды Бог з ёю, з вымовай. Тут вось бы разабрацца, чаму з 1 мільярда, выдзеленага вучылішчу на рамонт спартзалы, ледзь не палова — гэта розныя «накруткі»?

А што ж любімы горад? Любімы горад можа спаць спакойна: мастацкае вучылішча падпарадкоўваецца рэспубліканскаму міністэрству. Праўда, перад 50-годдзем вучылішча ў Мінгарсавет запрасілі дырэктара вучылішча — больш ніхто не пайшоў. «Прэзентавалі»: каму грамату, каму прэмію ў памеры дзвюх «мінімалак» — як гаворыцца, добрае слова і кошцы пачуць прыемна. Басалыга не стаў, аднак, чакаць завяршэння цырымоніі. Стала, кажа, крыўдна: вучылішчу патрэбны не граматы і прэміі, а рэальная дапамога.

У дырэктара казытлівае становішча, ён не можа звяртацца ў вышэйшыя інстанцыі без дазволу начальства. Прашу прабачэння, але ў мяне такога абмежавання няма. Таму прашу лічыць гэты артыкул такім зваротам...

**3.**

Сёлета вучылішча выпускае 56 чалавек. Многа гэта ці мала? Відаць, так ставіць пытанне няправільна. Колькі з гэтых пяці дзесяткаў пакіне след у мастацтве — гэта ўжо бліжэй да ісціны. А людзей, якія прафесійна разбіраюцца ў мастацтве, маюць грунтоўную школу, — іх многа ніколі не будзе.

Выпускнікі «Глебаўкі», без перабольшання, вядомыя ва ўсім свеце. Яны вучацца ў нашай мастацкай акадэміі, у Маскве, Санкт-Пецярбургу, у Кіеве — прызнаных мастацкіх цэнтрах, за мяжой. Хрэстаматыйны прыклад: выпускнік вучылішча па прозвішчу Церахаў скончыў, прычым бліскуча, мастацкую акадэмію ў Познані, пасля чаго палякі за свой кошт накіравалі яго вучыцца ў Германію. Хутчэй за ўсё, лічыць Басалыга, на радзіму ён ужо не вернецца. Ахвотна паверу: мякка кажучы, умовы для творчасці ў нас не зусім спрыяльныя. Шкада...

Прыклад, зразумела, не адзіны. Дзе б ні вучыўся глебавец, водгукі аб ім будуць звычайна выдатныя. Вось толькі летась навучэнка вучылішча ўзяла гран-пры ў Японіі, на сусветным конкурсе, за лепшае афармленне маркі і канверта. Характэрна, што з усіх народных мастакоў Беларусі толькі Гаўрыла Вашчанка не заканчваў «Глебаўкі».

Увогуле, у цяперашні час выпускнікі вучылішча ёсць вядомыя, паспяхова працуючыя мастакі ў Расіі, ва Украіне, у Францыі, Германіі, Італіі, Злучаных Штатах і... дзе іх толькі нельга сустрэць. Тут можа быць крыўдна толькі адно: тое, што вядомымі яны сталі не на радзіме...

Неяк Міхаіл Самуілавіч размаўляў з нямецкім прафесарам жывапісу. Той сказаў, што наша мастацтва ім цікавае. А потым прызнаўся, што нашы пачынаючыя мастакі на некалькі галоў вышэй за іхніх у сэнсе прафесійнай падрыхтоўкі. Еўропа, зазначыў прафесар, захапілася авангардам, у выніку страціла школу рэалізму, неаднойчы там пахаванаму. Каб адрадзіць яе, еўрапейцам спатрэбіцца гадоў 20—30. У нас, дадам я, гэта школа жыла ўвесь час. Колькі б бруду на яе ні лілі, але сваю задачу яна выконвала. Сусветна зараз вядомы Міхаіл Шэмякін заняўся сваім метафізічным сінтэтызмам, хачу нагадаць, пасля заканчэння звычайнай сярэдняй мастацкай школы, дзе яго спачатку навучылі правільна маляваць. Сінтэтызм быў потым.

А парадокс заключаецца ў тым, што тое, чаму зайздросціць нямецкі прафесар, зараз мае рэальную пагрозу знікнення. Справа нават не ў адсутнасці матэрыяльнай базы ў вучылішча, без якой беларускаму мастацтву прыйдзецца вельмі цяжка. Справа хутчэй у адносінах да гэтай сферы жыцця людзей.

Якія адносіны — мяркуйце самі. Калі выкладчык, які скончыў гэта ж вучылішча, потым — Акадэмію мастацтва, потым — майстэрню Міхаіла Савіцкага, атрымлівае менш, чым касір у метро, то якія адносіны? Калі аклад дырэктара вучылішча, які яго штодзень спрабуе выратаваць, які апрача вучылішча выкладае ў акадэміі, роўны 1 мільёну 999 тысячам рублёў, то пра якія адносіны можна гаварыць? Калі вучылішча вымушана «выбіваць» грошы на набор фарбаў кожнаму першакурсніку коштам 1 мільён, то што ж, такія павінны быць адносіны?

Самая танная алейная фарба — бялілы, каштуюць 100 тысяч за цюбік. Кадмій, краплак — за гэтыя трэба аддаць удвая-ўтрая больш. Ліст прыстойнай паперы — 30 тысяч. Цюбіка бяліла хапае на адну пастаноўку. Гэта з аднаго боку. А з другога — ярка таленавіты малады чалавек, які без гэтых рэчаў маляваць не навучыцца. Міхаіл Басалыга шчыра прызнаецца: рамонты — рамонтамі, але грошай не хапае нават для арганізацыі вучэбнага працэсу. Самы момант гучна закрычаць: «Каравул, людзі добрыя! Ратуйце, хто можа!»

Мне не хочацца паўтараць усім вядомыя ісціны аб прызначэнні мастацтва. Калі я гэтым займуся, то фактычна прызнаю, што мае чытачы — людзі цёмныя, дзікія, непісьменныя. А гэта, спадзяюся, не так.

— Таленты будуць прыходзіць, — сказаў на развітанне Міхаіл Самуілавіч. — Ніхто не мае права пазбаўляць іх магчымасці рэалізаваць свае здольнасці. А недахопу ў талентах Беларусь не мае. Кажу вам гэта з веданнем справы...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

НА ЗДЫМКУ: «Парадны» бок славутага вучылішча.

**Фота Андрэя ШАЎЦОВА.**

# ВЁСКА ЗАСТАЕЦЦА БЕЗ МОЛАДЗІ?

Паводле даных прафсаюзаў, са 161 тыс. чалавек, занятых на сельгаспрадпрыемствах Мінскай вобласці, толькі 32,4 тыс. (або прыкладна 20 працэнтаў) складае моладзь ад 16 да 29 гадоў. У той жа час у большасці гаспадарак Міншчыны ці не палова ўсіх працуючых — пенсіянеры або асобы, блізкія да пенсійнага ўзросту.

Як адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» старшыня Мінскага абласнога камітэта прафсаюзаў работнікаў АПК Мікалай Новікаў, сярод галоўных прычын, якія тлумачаць той факт, што апошнім часам усё менш маладых людзей застаецца на вёсцы, трэба назваць перш-наперш нізкі ўзровень заробкаў і несвоечасовасць іх выплат, праблемы з жыллём і адпачынкам. Як вынік, зараз калгасы і саўгасы вобласці адчуваюць вострую патрэбу ў кадрах практычна па ўсіх асноўных спецыяльнасцях. Прычым, спадзявацца, што ў бліжэйшай перспектыве гэта зусім нярадасная сітуацыя можа змяніцца да лепшага, як быццам не выпадае. Так, летась у сельскагаспадарчыя тэхнікумы паступіла ўсяго каля 900 жыхароў вобласці, або ў сярэднім па аднаму чалавеку на дзве гаспадаркі.

**Сяргей ГРЫБ.**



*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# ТРАВЫ КОСЯЦЦА...

## *Першы ўкос сёлета пачаўся больш чым на тыдзень раней*

Паводле апошніх даных, атрыманых карэспандэнтам «Звязды» ва ўпраўленні кормавытворчасці Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, усяго скошана 294,1 тысячы гектараў шматгадовых траў (13,5 працэнта ад планавага паказчыка). Па аб'ёмах лідзіруюць Брэсцкая і Гродзенская вобласці — 24 і 21 працэнт адпаведна. Прычынай для змянення графіка паслужылі больш прыдатныя ўмовы для выспявання траў — цёплае надвор'е, неабходная колькасць ападкаў і г. д. Нарыхтоўка кармоў пакуль знаходзіцца ў пачатковым стане — зараз нарыхтавана ўсяго 173,7 тысячы кармавых адзінак (3,3 працэнта ад плана). Першае месца па закладцы сенажу (127,7 тысячы тон) вытворчасці травяной мукі (1,8 тысячы тон) сена (11,3 тысячы тон) пакуль цвёрда трымае Брэсцкая вобласць. Больш за ўсіх сіласу нарыхтавана сёння на Гродзеншчыне — 38,1 тысячы тон.

Як лічаць спецыялісты, праблем з кармамі сёлета ўзнікнуць не павінна, бо, па ацэнках аграрнікаў, ураджайнасць траў на 15—20 працэнтаў вышэй, чым летась. Галоўнае, каб не падвялі надвор'е і тэхніка, нагрузка на якую ў 1,5—2,5 раза перавышае норму. Парк камбайнаў і касілак старэе і змяншаецца — зараз іх колькасць складае толькі трэцюю частку таго, што было ў 1990 годзе. 40 працэнтаў машын знаходзіцца за межамі нарматыўных паказчыкаў тэрміну работы тэхнікі. Штогод закупляецца ў лепшым выпадку 100—150 камбайнаў, у той час як неабходная колькасць — 2,5—3 тысячы (гэта значыць хоць адна адзінка на гаспадарку).

Першы ўкос пры спрыяльным збегу абставінаў павінен скончыцца дзесьці напрыканцы чэрвеня.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ПРАЦЯГ ТЭМЫ*

# ЗВЫЧАЙНАЕ ДЗІКУНСТВА

## *Засмечанасць прыдарожных тэрыторый вымяраецца тонамі*

**Мікрааўтобус з беларускімі турыстамі (дакладней — пакупнікамі патрыманых іншамарак) едзе па Германіі. Адзін наш зямляк шпурляе праз акно акурак. Дробязь? Гледзячы як для каго і дзе... Пасажыр машыны, якая абганяе, дакорліва ківае галавой і папярэджвае госця ўказальным пальцам рукі. Не выключана, што калі б на аўтабан выкінулі не акурак, а пакет з харчовымі адходамі, немец з салона свайго аўтамабіля адразу ж патэлефанаваў бы ў паліцыю. І тады справа магла б скончыцца не заклікам да сумлення, а нежартоўным штрафам.**

Канешне, добра, калі сумленне, выхаванасць, а адсюль і павага да навакольнага асяроддзя ў чалавека, як гаворыцца, у крыві. Разам з тым у той жа Германіі вы не сустрэнеце ніводнага грамадскага месца, напрыклад, аўтастаянкі, дзе немагчыма цывілізавана вырашыць пытанне са смеццем. Для параўнання — тыповы факт з нашай рэчаіснасці. Пляцоўка непадалёк ад вёскі Кострa Гродзенскага раёна, насупраць размешчанага ля трасы кафэ. У асноўным тут спыняецца на адпачынак вялікагрузны транспарт, прычым не толькі з беларускай «прапіскай», але і з іншых краін СНД і далёкага замежжа. Тэрыторыя так загаджана, што крыўдна за дзяржаву, у якой падобная «візітная картка». Чаго толькі не ўбачыш на пляцоўцы: і тара ад харчовых прадуктаў, і аўтапакрышкі, і розныя дэталі, якія выкінулі пасля рамонту машыны... Шафёрам пляваць на экалогію? Але перш чым папракаць іх, няўжо нельга ўстанавіць на стаянцы хаця б пару кантэйнераў для смецця?

Зрэшты, гэта яшчэ, як кажуць, кветачкі. Значна больш маштабнае дзікунства можна ўбачыць на чыгунцы. Дарожны майстар Ваўкавыскай дыстанцыі пуці Яўген Ярашук адказвае за 27-кіламетровы ўчастак ад вёскі Заполле Мастоўскага раёна да вёскі Жыдомля Гродзенскага раёна. У яго падпарадкаванні 12 работнікаў. Раз-пораз, у дадатак да асноўных абавязкаў па бягучаму ўтрыманню пуці, яны накіроўваюцца на так званую аперацыю «Паперка». Гэта значыць, што трэба хаця б часткова ачысціць чыгуначнае палатно і адхоны ад смецця. Маштабы забруджвання толькі яго ўчастка, па словах Яўгена Мікалаевіча, вымяраюцца тонамі. Сабраць усё немагчыма фізічна, можна хіба што навесці нейкі «марафет». Але неўзабаве чарговыя сотні пластыкавых бутэлек і іншых упаковак, харчовыя адходы і да т.п. паляцяць праз вокны «плацкарты» і купэ, прыбіральні шматлікіх цягнікоў. Па этыкетках можна «вывучыць» геаграфію Беларусі, Расіі, Польшчы... Дарэчы, іх збіраюць «калекцыянеры» з ліку тутэйшай дзятвы. Пасля іх рэйдаў на чыгуначных рэйках з'яўляюцца камяні і іншыя небяспечныя прадметы...

З цягнікоў ляцяць не толькі пластыкавая тара і рэшткі ежы, на якую збягаюцца каты і сабакі (шкляныя бутэлькі можна здаць у прыёмны пункт, і таму імі асабліва не раскідваюцца), але і горы шлаку, які ўтвараецца ў печках. Тут ужо, вядома, «ачышчаюцца» праваднікі. Падумаеш, яшчэ адна «порцыя» адходаў, чарговы ўчастак, дзе згарэлі трава і дрэвы...

Але вернемся да пасажыраў чыгуначнага транспарту. Наўрад ці вышэйпамянёнае дзікунства з іх боку стала б звычайнай нормай кожнага дня, калі б праваднікі ажыццяўлялі строгі кантроль за зборам смецця ў вагонах. А калі кантэйнер перапоўнены і на прамежкавай станцыі своечасова не выгружаны (няўжо так праблематычна размясціць адпаведныя ёмістасці на перонах?) — тады, зразумела, застаецца толькі пашкадаваць прыроду і нашых нашчадкаў, якім дастанецца ад нас такая спадчына. Мо дапаможа хто дарожным рабочым змагацца са смеццем? Яўген Ярашук прыгадаў такі факт. Здаецца, на пачатку 90-х гадоў у былога начальніка Баранавіцкага аддзялення чыгункі лопнула цярпенне, і на аперацыю «паперка» былі выведзены кадры з рэзерву праваднікоў у свой выхадны. Прыехалі памочнікі і да Яўгена Мікалаевіча, атрымалі работу. Напэўна, быў у гэтым і выхаваўчы эфект. Хаця, мяркуючы па сённяшніх парадках, а дакладней беспарадках, падзейнічала далёка не на ўсіх. Да таго ж у забруджванні навакольнага асяроддзя вінаваты не толькі нашы землякі, але і праваднікі цягнікоў, якія фарміруюцца ў той жа Расіі.

І такая яшчэ «дробязь». За савецкім часам Яўген Ярашук мог уласнаручна штрафаваць тых, хто забруджвае тэрыторыю ля чыгункі. Былі адпаведныя квітанцыі, выдаў яе парушальніку, узяў з яго грошы, здаў — усё ж нейкая барацьба за парадак. Цяпер гэтага няма, а многія жыхары тутэйшых населеных пунктаў па-ранейшаму нясуць сваё смецце ледзь не да самых рэек.

Абмежаваныя і паўнамоцтвы групы экалагічнага нагляду пры Гродзенскай абласной дзяржаўтаінспекцыі, у прыватнасці, што датычыцца несанкцыяніраванага складзіравання адходаў і смецця. На думку яе кіраўніка Валерыя Ляміна, законы часам адстаюць ад патрабаванняў жыцця. А здзек над навакольным асяроддзем працвітае. Летась група экалагічнага нагляду склала пяць пратаколаў на фірму «Мінатаўр», якая літаральна са свайго парога вывальвала вытворчыя адходы на праезную частку. Дайшло да таго, што пачалі складзіраваць лямпы з утрыманнем ртуці. З вялікімі цяжкасцямі з фірмы спагналі 25 мільёнаў рублёў штрафу. Аднак В. Лямін не ўпэўнены, што зноў не знойдзе там кучу смецця. Бо магчымасці яго групы (6 чалавек на абласны цэнтр і Гродзенскі раён), канешне, абмежаваныя. Кажуць, што ў Магілёве аналагічнае падраздзяленне складаецца з 17 чалавек. Зразумела, і вынікі іх работы значна лепшыя. Хаця і гродзенцы не «спяць у шапку». За мінулы год, калі ў групе былі тры супрацоўнікі, толькі па экалогіі склалі 1103 пратаколы, і ўжо прыкладна столькі ж — сёлета. За чатыры месяцы з парушальнікаў спагналі 100 мільёнаў рублёў штрафу.

Што датычыцца збору бытавых адходаў у насельніцтва, дык добры прыклад паказвае тут Ліда. У жылым сектары ўстаноўлены кантэйнеры — асобна на тую ж паперу, шкло. Людзям плацяць за гэтыя адходы, якім потым вяртаецца другое жыццё. Падобны парадак цяпер збіраюцца ўкараніць і ў абласным цэнтры. А вось да перапрацоўкі альбо спальвання іншага бытавога смецця пакуль не дайшло, па-ранейшаму выратоўваюць звалкі. Дарэчы, гродзенская гарадская звалка ўжо вычарапала свой рэсурс, і неўзабаве павінна адкрыцца новая. Будзе іншы маршрут у 34 машын спецаўтагаспадаркі (патрэбна 56 смеццявозаў), палова з якіх ужо адслужыла па 20—25 гадоў і падлягае спісанню.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

